№ 10 (3955)

6 лютага 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

БЕЛАРУСЬ—ЕЎРОПА

## Палітвязні: сутыкненне дыпламатый

Еўропа спыніць санкцыі адносна Беларусі толькі тады, калі будзе дасягнуты значны прагрэс у сферы абароны правоў чалавека і будуць вызвалены палітвязні.

Такую заяву зрабіў учора ў Вільнюсе намеснік міністра замежных спраў Літвы **Андрус Крывас.** 4 лютага ён быў у Мінску, дзе праводзіў перамовы са сваёй калегай, намесніцай міністра замежных спраў Беларусі **Аленай Купчыной.**

Літоўскі дыпламат таксама заявіў, што на саміце «Усходняга партнёрства», які пройдзе ў Рызе 21–22 мая, Беларусь можа парафіраваць пагадненне з ЕС аб спрашчэнні візавага рэжыму і рэадмісіі. (Рэадмісія – гэта згода дзяржавы прымаць назад сваіх грамадзян, а таксама замежнікаў, якія раней знаходзіліся на яе тэрыторыі.)

ВІЗІТ

## ... А заадно Уладзімір Макей пакаштуе нямецкага піва

Учора пачаўся чатырохдзённы візіт у Германію міністра замежных спраў Беларусі **Уладзіміра Макея**. 5–8 лютага ён зробіць візіт у Берлін і Мюнхен.

Пра гэта паведаміў журналістам начальнік упраўлення інфармацыі – прэс-сакратар МЗС Дзмітрый Мірончык.

Дзмітрый Мірончык адзначыў, што *"ў рамках развіцця беларуска-германскіх адносін у палітычнай, гандлёва-эканамічнай сферах адбудзецца сустрэча кіраўніка беларускага знешнепалітычнага ведамства з прадстаўнікамі германскіх дзяржаўных органаў, дзелавых колаў і экспертнай супольнасці".* Таксама Уладзімір Макей возьме ўдзел у 51-й Мюнхенскай канферэнцыі па пытаннях бяспекі і *"правядзе двухбаковыя сустрэчы з мэтай абмеркавання пытанняў развіцця палітычных і гандлёва-эканамічных адносін як з Германіяй, так і з іншымі замежнымі партнёрамі Беларусі".*

ПОЗДРАВЛЯЕМ!

## Большой артист



*5 февраля Ростиславу Янковскому исполнилось 85!*

Ростислав Янковский, ведущий мастер сцены Национального академического драматического театра им.Горького, сыграл более 160 ролей, около 30 из них в кино. Он народный артист БССР, народный артист СССР, Почетный гражданин города Минска и этим званием особенно дорожит. Ростислав Янковский – лауреат Государственной премии Республики Беларусь, премии Союзного государства в области литературы и искусства, премии «За духовное возрождение», неизменный председатель Минского международного кинофестиваля «Лістапад». За большой вклад в развитие белорусской культуры именитый мастер удостоен ордена Франциска Скорины и ордена Отечества III степени.

«Народная Воля» поздравляет большого мастера с юбилеем и предлагает читателям отрывки из интервью актера, данных им в разные годы.

*(Продолжение на 2-й стр.)*

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



*Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук*

## Жесткая посадка

В последнее время подорожали коммунальные услуги, возросли тарифы на электроэнергию. Подскочили цены на многие товары, продукты.

Золотовалютные резервы страны ужались до 5 млрд долларов. Источники их увеличения не просматриваются. Из-за сокращения покупательной способности российского рынка сами власти реально прогнозируют падение экспорта на 3–4%. По причине налогового маневра белорусские НПЗ покупают российскую нефть на 100 долларов дороже. Это в то время, когда мировая цена на нефть марки Brent котируется в районе 50 долларов за баррель, а цена на марку WTI опустилась до 46 долларов. Самый раз было бы переориентироваться на других поставщиков. Все это – следствие непозволительно высокой зависимости белорусской экономики от России.

Девальвационный обвал российского рубля продолжается. После небольшого затишья доллар вновь перешагнул 70-рублевый рубеж, а евро – 80-рублевый. Главные банки союзников шарахаются в разные стороны. Российский Центробанк сначала поднимает свою ключевую ставку с 10% до 17%, потом снижает ее на 2%. Наш Нацбанк увеличивает свою ставку на 5%, с 20% до 25%. Золотовалютные резервы России опустились ниже 400 млрд долларов. Под влиянием западных финансовых санкций обе экономики находятся под растущим грузом внешних долгов. Российская экономика потеряла от санкций и снижения мировых цен на нефть уже 200 млрд долларов. Международное рейтинговое агентство Standart&Poors понизило рейтинг России до «мусорного» уровня «BB+», что ограничивает условия размещения на мировом финансовом рынке российских долговых ценных бумаг, приток иностранных капиталовложений в страну.

Росстат отмечает ускорение инфляции в России до 12,5%. Но российские покупатели также не доверяют официальной статистике. И после посещения магазинов уверяют, что ценовое ралли значительно круче, чем дает официоз. Теперь на продукты, как они считают, траты на 20–40% больше – в зависимости от региона. Если в январе сахар можно было купить за 25–30 рублей, то сейчас дешевле 50–70 рублей пачки не найти. Не лучшая ситуация и с промышленным ширпотребом.

В правительстве и Госдуме не знают, что с этим делать, и поговаривают о возможной заморозке цен по белорусскому рецепту.

В силу двукратной девальвации российского рубля соответственно в два раза снизились российские средние зарплаты и пенсии в долларовом эквиваленте, вплотную приблизившись к белорусским. Многие гастарбайтеры, включая белорусов, потянулись домой из-за значительно просевших заработков и сокращения потребности российского рынка труда в рабочей силе. А объемы денежных переводов в такие страны, как Таджикистан и Кыргызстан, достигали трети их ВВП.

Миллионы людей в СНГ задаются вопросом: отчего это все? В конце концов – ради чего это все? Ведь мировая экономика уже давно развивается бескризисно с приростом ВВП в среднем 3,3%. Население России после крымской эйфории все больше ощущает себя во вражеском окружении. Как в осажденной крепости. У него наблюдается раздвоение сознания от непонимания всего происходящего. Да что россияне! Получается, что все население СНГ стало заложником непомерных и безумных амбиций одного человека, который захотел вписаться в историю России как собиратель «ее» земель. Пока Россия не выведет войска с оккупированных украинских территорий, Запад не отменит экономические санкции, только будет их наращивать. Предвидится отрицательная динамика ВВП России не менее чем на два года вперед. К примеру, к концу прошлого года реальные доходы населения России упали на 7,3%. На многих предприятиях частного сектора зарплаты заморозили. В 2015 году, по оценке Минэкономразвития РФ, реальные доходы населения снизятся на 6,3%. По другим источникам – не менее чем на 10%. Последний раз доходы россиян минусовали после дефолта 1998 года в посткризисный 1999 год (-12,3%). Даже во время мирового кризиса 2008–2009 годов они хоть немного, но плюсовали (на 2,4% и 3% соответственно). На многих предприятиях пошли сокращения персонала. Стало известно о намерениях провести забастовки на АвтоВАЗе и ряде предприятий Уральского промышленного региона.

В текущем году Беларуси необходимо выплатить по внешним долгам более 4 млрд долларов. Осилить эти выплаты за счет собственных валютных поступлений явно не реально. Требуется, как всегда, делать новые заимствования, то есть прибегать к рефинансированию. Пока белорусское руководство может рассчитывать на последний, шестой, транш кредита Антикризисного фонда ЕврАзЭС в 440 млн долларов и на российский кредит в 500 млн долларов, о котором есть предварительная договоренность. Но этого недостаточно. Поэтому главный вопрос переговоров Лукашенко и Путина в Сочи нетрудно предвидеть. А выделять экономическую помощь последнему союзнику России будет накладно, как никогда.

Только слепой может не видеть, что экономика России все глубже погружается в рукотворный кризис. Ее ждет жесткая посадка. А вместе с экономикой России неизбежно будет следовать скованная одной с ней цепью и белорусская экономика. Поэтому необходимо постепенно дистанцироваться от экономической зависимости от России. Проводить многовекторную экономическую политику не на словах, а на деле. Диверсифицировать поставки нефти, покупать ее у Азербайджана, на Ближнем Востоке с поставкой танкерами и далее через Одесский порт по трубопроводу (логистика опробована). Со строительством терминала в Литве закупать сжиженный газ. Диверсифицировать экспорт. Для чего необходима масштабная модернизация промышленности на основе западных инвестиций и технологий. Это станет возможным с освобождением всех политзаключенных. Уйти от госкапитализма через приватизацию, в том числе продавать активы современному западному капиталу. Шире вовлекать западный и другой капитал в банковский сектор.

А пока вот в такой мрачной экономической и военно-политической обстановке с 1 января стартовал многообещающий в речах руководителей государств Евразийский экономический союз. С почином, как говорится.

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Пракуратура: віна Уладзіміра Мальцава цалкам даказана

Такую заяву зрабіў пракурор Мінскай вобласці Алег Лаўрухін.

*«Прызначанае судом Уладзіміру Мальцаву пакаранне (тры гады пазбаўлення волі) не разыходзіцца з пазіцыяй дзяржаўнага абвінавачання, хоць мы і прапаноўвалі трохі большае. Што тычыцца нашай афіцыйнай пазіцыі, то ў пракуратуры цвёрдая перакананасць, што віна гэтай асобы ў здзяйсненні інкрымінаванага злачынства цалкам даказана»,* – сказаў **Алег Лаўрухін.**

Як вядома, на нядаўняй прэс-канферэнцыі А.Лукашэнкі рэдактар барысаўскай раённай газеты «Адзінства» пацікавілася, ці не лічыць кіраўнік дзяржавы прысуд Мальцаву занадта жорсткім. Справа былога гендырэктара "Барысаўдрэва", якога асудзілі за зрыў мадэрнізацыі прадпрыемства, неадназначна ўспрымалася грамадскасцю. Шмат хто палічыў, што Мальцава зрабілі крайнім, ён быў усяго толькі пешкай у маштабных карупцыйных схемах. Мальцаў быў пастаўлены кіраваць прадпрыемствам толькі на канчатковым этапе, а ўвесь асноўны аб'ём сродкаў быў страчаны да яго.

Лукашэнка заявіў на прэс-канферэнцыі, што разбярэцца ў падрабязнасцях справы, праўда, агаварыўся: "*Гэта не азначае, што ва ўгоду нейкай грамадскай думцы пачну абараняць чалавека, які здзейсніў правапарушэнне*". І вось пракуратура дала адказ...

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

КАМПАНІЯ

## Ёсць больш за 90 тысяч подпісаў!

Арганізатары кампаніі «Народны рэферэндум» сабралі больш за 90 тысяч подпісаў у падтрымку сваёй ініцыятывы, а таксама накіравалі больш за 500 электронных зваротаў у Адміністрацыю прэзідэнта, Палату прадстаўнікоў з заклікам прызначыць рэферэндум. Па крайняй меры пра гэта паведаміла прэс-служба кампаніі.

Нагадаем, што ініцыятарамі збору подпісаў за прызначэнне рэферэндуму з'яўляюцца Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада), кампанія «Гавары праўду!», Партыя БНФ і рух «За Свабоду».

*«Падчас апошняй прэс-канферэнцыі Лукашэнка гаварыў аб неабходнасці дыялогу з усім грамадствам. Мы згодны. Але пры гэтым мы бачым па справах, што стаўка зноў робіцца на чаканне літасці ад Крамля. У крызісны час праграма развіцця Беларусі адсутнічае. Грамадству прапаноўваецца падтрымаць застой. Мы прапануем шлях сапраўднага дыялогу, які дасць новыя магчымасці развіцця Беларусі. «Народны рэферэндум» – гэта дыялог і праграма развіцця Беларусі»,* – гаворыцца ў паведамленні прэс-службы кампаніі. Ініцыятары «Народнага рэферэндуму» заклікалі Аляксандра Лукашэнку *«прыслухацца да дзясяткаў тысяч тых, хто паставіў свой подпіс у падтрымку рэферэндуму, і прызначыць яго правядзенне разам з прэзідэнцкімі выбарамі».*

ДАРЭЧЫ

У лютым ініцыятары кампаніі плануюць абмеркаваць пытанні інтэграцыі з ЕС. У прыватнасці, плануецца арганізаваць грамадскія слуханні ў розных гарадах па тэме «Беларусам трэба бязвізавая прастора з ЕС!». У рамках грамадскіх слуханняў і "круглых сталоў" разам з экспертамі будуць разглядацца пытанні супрацоўніцтва Беларусі і ЕС, малога памежнага руху, магчымасці бязвізавых адносін. Паводле вынікаў слуханняў будуць падрыхтаваны адпаведныя рэкамендацыі ўладам.

У ТЭМУ

### У Ярмошынай усё гэта – "лухта і правакацыя"

Калі ініцыятары кампаніі "Народны рэферэндум" сабралі першыя 50 тысяч подпісаў, яны аднеслі скрыні з імі ў Палату прадстаўнікоў. Кіраўніца Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына адразу адрэагавала на акцыю, сказаўшы, што ўсё гэта – "лухта і правакацыя".

*"Першае: рэферэндум праводзіцца пры наяўнасці 350 тысяч подпісаў, а не 50 тысяч. Другое: каб пачаць працэдуру, неабходна зарэгістраваць ініцыятыўную групу. А не прыцягваць невядома што! А то яны пакрычалі, заявілі, прывезлі, але гэта ўсё юрыдычна нікчэмна"*, – сказала Лідзія Ярмошына.

Аднак справа ў тым, што пакуль ініцыятары кампаніі спрабуюць скарыстацца правам заканадаўчай ініцыятывы з боку дэпутатаў. Для гэтага, паводле беларускага заканадаўства, патрэбна сабраць 50 тысяч подпісаў. Калі дэпутаты ўсё ж такі не пагодзяцца гэтую ініцыятыву падтрымаць, то актывісты абяцаюць зарэгістраваць ініцыятыўную групу і пайсці на збор 500 тысяч подпісаў. Па крайняй меры кіраўніцтва кампаніі такі намер публічна агучыла.

РАКУРС

### Таіса Данілевіч можа згубіць мандат?

Чулі? Дэпутат Палаты прадстаўнікоў **Таіса Данілевіч** выказалася за тое, каб пазашкольныя гурткі для многіх дзяцей былі платныя.

Ва ўсім цывілізаваным свеце такія ініцыятывы каштавалі б абранніку палітычнай кар'еры, бо там дэпутатаў выбіраюць, каб яны абаранялі менавіта інтарэсы выбаршчыкаў. Але мы маем зусім іншую сітуацыю. Усе бацькі выплачваюць падаткі, якія ідуць у тым ліку і на ўтрыманне адукацыйных устаноў. Можа, хопіць абіраць тых жа бацькоў яшчэ і дадатковымі паборамі?

Нагадаем, гэта тая самая Таіса Данілевіч, якая яшчэ нядаўна ўзначальвала ўпраўленне адукацыі Мінскага аблвыканкама і мела непасрэднае дачыненне да звальнення педагогаў за прыналежнасць да апазіцыйных палітычных партый. (Узгадайце гісторыю настаўніцы Наталлі Ільініч, пра якую шмат пісала "Народная Воля".) Зараз Таіса Данілевіч – дэпутат Палаты прадстаўнікоў па Салігорскай акрузе.

СУД

### Народнаму засядацелю зрабілася дрэнна

Учора быў агучаны прыгавор па справе аб забойстве Юліі Саламацінай, якая паехала да хлопца, з якім пазнаёмілася па інтэрнэце, а потым міліцыя не магла нават знайсці ейнае цела, каб бацькі маглі дачку пахаваць.

Пракурор папрасіў для 26-гадовага мінчука Паўла Цыняўскага 17 гадоў калоніі строгага рэжыму, для яго 48-гадовай маці – два гады калоніі агульнага рэжыму. Такі і быў вынесены прысуд. Першыя 5 гадоў Павел Цыняўскі правядзе ў турме, астатнія – у калоніі строгага рэжыму. Акрамя таго, з забойцы суд спагнаў 1,5 мільярда рублёў кампенсацыі на карысць пацярпелых, з яго маці – 500 мільёнаў рублёў. Падчас абвяшчэння прысуду выклікалі «хуткую», бо ад жудасных падрабязнасцяў справы кепска стала народнаму засядацелю.

Ураджэнка Смалявіцкага раёна Юлія Саламаціна жыла і працавала ў сталіцы, збіралася паступаць ва ўніверсітэт. 18 ліпеня мінулага года яна паехала на сустрэчу з хлопцам, з якім пазнаёмілася ў сацсетках, і знікла. Як было ўстаноўлена, мінчук падчас сваркі задушыў дзяўчыну рэменем. Потым з дапамогай маці ён расчляніў яе цела. Рэшткі па частках хавалі ў лесапаласе ў межах горада, а таксама... проста змывалі ў каналізацыю.

РЭБУС

## 7,2 мільярда рублёў падаткавікі спагналі з пакупнікоў валюты

Кожны год падатковыя органы правяраюць беларусаў, у якіх выдаткі значна перавышаюць даходы. І кожны год колькасць тых, хто жыў не па сродках, узрастае. Спецыялісты не хаваюць, што статыстыка «паляпшаецца» і за кошт выяўлення тых, хто купляў значныя сумы валюты ў банках, але потым у падатковых органах не мог растлумачыць, адкуль браў рублі на "валютную аперацыю".

У мінулым годзе падатковыя органы краіны праверылі амаль 22 тысячы беларусаў, у якіх выдаткі былі большыя, чым даходы. З тых, хто не змог даказаць, што траціў толькі сумленна заробленае, быў спагнаны падатак, і ў выніку бюджэт краіны папоўніўся на 17,5 мільярда рублёў. З гэтай сумы 7,2 мільярда – гэта сума падатку, выплачаная менавіта тымі, хто купляў у банках валюту. Нярэдка такімі пакупнікамі з'яўляюцца пенсіянеры, нідзе не працуючыя грамадзяне.

Напрыклад, у Міністэрстве па падатках і зборах распавядаюць, як пенсіянер з Мінска ў 2012–2013 гадах набыў у абменных пунктах больш за 5 мільёнаў долараў на суму 47 мільярдаў рублёў. Калі гэтым фактам зацікавіліся падаткавікі, пенсіянер растлумачыў, што грошы на валюту яму перадавалі невядомыя асобы, іх імёны і прозвішчы ён не ведае. Зразумела, што такі адказ інспектараў не задаволіў, і пенсіянеру прад'явілі да выплаты падаходны падатак у памеры 5,7 мільярда рублёў, а справу перадалі ў органы фінансавых расследаванняў, каб там высветлілі, каму мінскі пенсіянер купіў больш за 5 мільёнаў долараў.

*– Вядома, што гэта такі яскравы прыклад,* – кажа прэс-сакратар міністэрства **Сяргей Шкут.** – *Як і гісторыя беспрацоўнай 25-гадовай дзяўчыны з Гомеля, якая на працягу аднаго года набыла элітную нерухомасць у цэнтры горада, а таксама два дарагія аўтамабілі – "Бэнтлі" і "БМВ". Адкуль грошы на пакупкі, яна не патлумачыла і заплаціла падатак у суме больш за 93 мільёны рублёў.*

*Але шмат выпадкаў, калі грамадзяне куплялі ў банках меншыя сумы валюты ці набывалі не такія дарагія рэчы, але ўсё роўна не маглі даць тлумачэнні аб крыніцах сваіх даходаў. У першую чаргу падатковая служба супастаўляе даходы і выдаткі асоб, якія купляюць альбо будуюць дарагія кватэры і дамы, а таксама набываюць аўтамабілі.*

Паводле слоў Сяргея Шкута, калі чалавек не аплачвае налічаную суму падатку, падатковая служба перадае матэрыялы ў органы крымінальнага пераследу. І сёння ў судах краіны разглядаецца нямала спраў па неплацельшчыках падаткаў.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ВЕДАЙ НАШЫХ!

## У Германіі згубілі багаж бронзавага прызёра чэмпіянату свету па фрыстайле Максіма Гусціка

*А алімпійскі чэмпіён Антон Кушнір адпусціў бараду.*

Беларускія фрыстайлісты, у рэшце рэшт, сабраліся ў Мінску. Апошнім часам наша зборная лятаючых лыжнікаў выступае, можна сказаць, проста трыумфальна!

На чэмпіянаце свету **Максім Гусцік** заваяваў "бронзу". На апошнім этапе Кубка свету, які праходзіў у ЗША, **Ганна Гуськова, Станіслаў Гладчанка і Дзяніс Восіпаў** заваявалі "серабро" ў камандных спаборніцтвах, а 18-гадовая беларуска **Аляксандра Раманоўская** сенсацыйна перамагла ў жаночых спаборніцтах.

І гэта ў той час, калі наша зборная праводзіць гэты сезон без сваіх шматгадовых лідараў – медалістаў зімовых Алімпіяд розных гадоў! **Дзмітрый Дашчынскі і Аляксей Грышын** завяршылі сваё выступленне ў вялікім спорце. **Антон Кушнір** аднаўляецца пасля траўмаў, а **Ала Цупер** знаходзіцца ў дэкрэтным адпачынку.

*"О, адрасціў бараду, адразу і не пазнаць!"* – жартавалі сябры па камандзе, калі заўважылі барадатага алімпійскага чэмпіёна **Антона Кушніра (на фота).**



*"Зараз гэта модна",* – адказаў той.

А вось бронзаваму прызёру чэмпіянату свету **Максіму Гусціку** было не да жартаў – яго багаж па дарозе з Амерыкі ў Мінск згубіўся.

*"У аэрапорце Франкфурта "завіслі" рэчы*, – распавёў спартсмен. – *У нас было ўсяго 45 хвілін, каб пераскочыць з аднаго рэйса на другі, таму мы паспелі гэта зрабіць, а багаж, відаць, не. Але пазней усё вярнулі".*

Тым часам не хавала шчасця ўзыходзячая зорка беларускага фрыстайла **Саша Раманоўская.**

*"Перамога на этапе Кубка свету – гэта мая пакуль самая вялікая перамога ў спартыўнай кар'еры*, – сказала яна. – *Будзем спадзявацца, не апошняя..."*

**Алесь СІВЫ.**

**P.S.** *У бліжэйшых нумарах "Народнай Волі" чытайце інтэрв'ю з Аляксандрай Раманоўскай, Антонам Кушнірам і іншымі беларускімі фрыстайлістамі.*

ГОРЯЧАЯ ТЕМА




Вчера госсекретарь США **Джон Керри** прибыл с визитом в Киев. Одна из главных тем переговоров – расширение американской военной помощи Украине.

Чуть позже в Киев для переговоров об урегулировании конфликта на востоке Украины также прибыли президент Франции **Франсуа Олланд** и канцлер Германии **Ангела Меркель.**

Как заявил Олланд, речь идет о новых совместных мирных инициативах Франции и Германии, «в основе которых лежит принцип территориальной целостности Украины». Сегодня, в пятницу, оба политика будут находиться в Москве.

Представитель Кремля подтвердил, что Олланд и Меркель встретятся с российским президентом Владимиром Путиным, чтобы обсудить «скорейшее прекращение гражданской войны на юго-востоке Украины».

